# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 34 (599) ГОД XII 20 ЖНІЎНЯ 1967 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ

### ЗБОР ЭКСПАНАТАЎ У БЕЛАРУСКІ МУЗЕЙ

Збор экспанатаў у Беларускі музей у Белавежы справа пільная! Разлічваем на дапамогу ўсяго беларускага насельніцтва, беларускай інтэлігенцыі і настаўнікаў. Апублікаваны ў «Ніве» 11 чэрвеня г.г. заклік ГП БГКТ і публікаваныя ў нашым тыднёвіку штотыдзень да 22 ліпеня г.г. інфармацыі аб патрэбных музею экспанатах не знайшлі належнага, на нашу думку, водгуку грамадства. Аднак ужо многія настаўнікі пытаюць, ці ў далейшым збор экспанатаў у музей актуальны.

Адказваем: Так!

Просім усіх памятаць аб гэтым закліку.

У днях з 25 па 29 ліпеня працаўнікі Галоўнага праўлення БГКТ выязджалі ў Беластоцкі, Гайнаўскі і Сямяціцкі паветы. Гэтыя паездкі далі нам каля 80 экспанатаў, з якіх 40—50% яшчэ не было прадстаўлена ў нашым музеі. Падкрэсліваем вялікае зразуменне насельніцтва, якое бясплатна аддае патрэбныя беларускаму музею экспанаты.

Шчыра дзякуем усім сялянам, якія падарылі нашаму музею цэнныя экспанаты.

Дзякуем таксама актывістам БГКТ, асабліва кіраўніку школы ў Луцэ Янку Циванюку, прадаўшчыцы кіёска «Рух» у Новым Беразове Надзеі Раманюк і інструктару ПК ПАРП у Сямяцічах Аляксандру Кондэлю. Ніжэй падаем спісак экспанатаў, якія падарылі музею беларускія сяляне.

#### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Цісоўка**

Янка Янель с. Вінцука — карзінка, лінейка, шуфля, каб насыпаць бульбу ў печ;

Янка Янель с. Пятра — рог на порах, валкаўніца, ключ, анталка, круцёлка, ступка;

Міхаліна Нос — прасніца, помпа (сікаўка);

Уладзіслаў Лях — ступка.

**Бандары**

Ольга Баршчэўская — палатно для рэшата, накладка на красёнка да вырабу сіт, абечна, рэжчык і іншыя прылады да вырабу рашот.

#### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Новае Беразова**

Міхась Чабай — барана, вулей з пня, сікаўка пчалярская, матушка для прадзення тоўстых нітак, рэйдкі да навівання асновы на кросны, калаўротак, трапачка, «лапатэнь», свярдзёлак, формы на «званякі», ключкі да дратавання, кошык на сыр, старыя кніжкі.

**Койлы**

Янка і Пелагея Астапчукі — ціскі на сыр, кашэлка, санкі, жалезнае пута, капылы;

Аляксандр Малашкевіч — калаўротак, ступка, калясо да воза, прылада да нацягвання абручоў, сабачка, прасніца;

Янка Карпюк — «шлоп», гумавыя пасталы.

**Новы Корнін**

Міхась Гацута — «шлоп» да лапання пацукоў, тхароў і інш.

#### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Еўтушчыкі**

Васіль Высоцкі — сошка.

**Харашэва**

Антоні Міхноўскі — барана, мянташка, куля, рамка да выконвання сурвэтак, нічальнічны варштат, «распонка», саламяны башмак і саламяны шнур, з якога ён зроблены, ступка.

**Чорная Сярэдняя**

Аляксей Бурак — лыжкі драўляныя, вілы драўляныя да гною, ключка садзіць бульбу;

(Працяг на стар. 3)

З ЗАПІСАК ПЕШАХОДА




Падарожжа сваё аўтар пачаў у акрэсленых мэтах — дзеля этнаграфічных пошукаў. Этнограф цікавіцца той галінай вясковага жыцця, якая пераказвалася маладым пакаленням дарогаю вуснай традыцыі, без пісьмовай, кніжнай мудрасці і навукі.

Да Зуброў ад зуброўскай станцыі некалькі кіламетраў дарогі і ў летні цёплы дзень адразу можна назіраць «этнаграфію» жніўнай працы. Чым адрозніваецца традыцыя жніўнай працы ў ваколіцы Зуброў ад такой жа працы, скажам, у раёне Бельска? Перад усім спосабам стаўлення скошаных снапоў. У Сакольскім і Беластоцкім паветах, беларусы стаўляюць іх у дзесяткі, прыкрываючы «шапкаю», або, у сучасны момант, нічым не прыкрываючы; на Бельшчыне — 9 пастаўленых снапоў прыкрываецца зверху трыма цесна звязанымі снапамі.

Пачынае падаць густы цёплы дождж і трэба чым хутчэй схавацца ў чыюнебудзь хату. Забягаю да першага з берагу зуброўскага гаспадара. Гаспадар нават цешыцца нечаканаму госцю. Гаспадар, аказваецца, не зусім гаспадар — ён перад усім рабочы. Працуе на чыгунцы. Гаспадарка яго на столькі малая, што ў жніво тут усяго на паўдня работы. Размоўца мой акурат у водпуску і дома амаль няма работы, таму і ахвотны ён пагаварыць з падарожнікам.

Даведваюся тады нямала аб жыццібыцці Зуброў і акалічных вёсак. Аказваецца, Зубры страцілі амаль увесь свой фальклор. Знікла зусім гадавая абрадавасць і амаль зусім сямейная. У Зубрах не ведаюць, што такое «Юрыя», каляднікі былі тут апошні раз каля дзесяці гадоў таму назад і то з нейкай суседняй вёскі, дажынкі з «кветкаю» і іншымі абрадамі асталіся толькі ва ўспамінах старэйшых.

Цікава толькі вось што: у Зубрах і ў іншых вёсках, як у ніводнай, мабыць, іншай старонцы, асталіся на сценах традыцыйныя народныя ручнікі з традыцыйнаю беларускаю вышыўкай.

У адлегласці 2 кіламетраў ад Зуброў распалажана калонія, званая Зялёнай. Яшчэ за цара былі гэта панскія ўладанні, у міжваенны перыяд пасялілі тут каланістаў з цэнтральнай Польшчы ў рамках акцыі паланізацыі польскім насельніцтвам усходніх «крэсаў». Прайшло некалькі дзесяткаў год і маладое пакаленне Зялёнай збеларусіфікавалася; моладзь, прыходзячы на забавы ці вечарынкі ў беларускія вёскі, ні моваю ні паводзінамі не адрозніваецца ад беларускага асяроддзя.

Зубры з'яўляюцца апошняй вёскай з тыповай для ўсяе Сакольшчыны і часткі Беластоцкага павета дыялектычнай рысай: дзеясловы канчаюцца тут на **са** (**нарабіўса, учапіўса** і г.д.). У суседняй вёсцы Вейкі пачынаецца ўжо больш тыповае для беларускай мовы заканчэнне з **ся.** Дробная ў істоце дыялекталагічная розніца стаецца ў свядомасці сялян падставай да істотнага разрознення. Вёскі з вымаўленнем на **ся** называюцца тут «запольнымі», або крыху насмешліва «гірсамі», іх вымаўленне выдаецца ўсім смешным, дзіўным і ненатуральным. Калі мой размоўца сказаў па-запольску некалькі слоў, прысутная ў хаце моладзь з хіхатаннем паўтарала іх, як нешта вельмі камічнае.

Вёска Вейкі, як я ўжо сказаў, у тутэйшай тэрміналогіі, гэта ўжо Заполе. Вейкі страшэнна раскіданы па хутарах, прыезжаму цяжка нават знайсці уласцівую вёску. Для жыхараў Вейкаў стварае гэта шмат цяжкасцей. Вось хаця бы электрыфікацыя. Вёска рэгіструецца як электрыфікаваная. У сапраўднасці аднак на 126 гаспадарак электрыфікавана тут толькі 34. Рэшта далей свеціць так цяжка сёння даступнай нафтаю. На электрыфікаванне рэшты гаспадарак электрыфікуючаму прадпрыемству не хапіла і матэрыялаў, і, што больш праўдападобна, ахвоты.

Вейкі — вёска двуверавызнаўчая. Больш-менш палова жыхараў — гэта праваслаўныя, другая — каталікі. Абедзьве веравызнаўчыя групы жывуць згодна, як сусед з суседам. Сужыццё аднак гэтых груп, якія ўвабралі ў сябе пэўныя элементы двух розных цэнтраў еўрапейскай культуры — Візантыі і Рыма, — вартае не скромнага рэпарцёрскага артыкула, але цэлай працы.

**Ул. Паўлючук**

Фота аўтара



Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментары • Весткі

# СВЕТ

## ШТО Ў ЗША?

Здаецца, што нешта «супакоіліся» амерыканскія негры, а мо дакладней, іх «супакоілі» паліцэйскія, члены гвардыі, а нават федэральныя войскі ЗША Забітых пахавана. Але ці негрыцянская праблема занікла? Не, яе стараюцца развязаць. Прэзідэнт Джонсан адразу ж выдаў загады, каб увясці спецыяльную вучобу паліцэйскіх і салдат для разгрому дэманструючых.

Але не толькі. Адразу адклікнуліся амерыканскія прамыслоўцы, якія запрапанавалі рознага тыпу «няшкодную» зброю. Адзін з заводаў прапануе спецыяльныя электрычныя сутрасенні вельмі балючыя, але не пагражаючыя жыццю чалавека, прапануюць таксама вадкасці, якія робяць вуліцу на многа больш слізкай, чым люстраны лёд і многія іншыя. Нельга забываць і аб тым, што прадукцыя гэтай «зброі» прынясе не малыя даходы.

Такая развязка негрыцянскай праблемы ў ЗША здаецца быць не менш слізкай, чым вадкасць, якая на іх рыхтуецца.

## КІЗІНГЕР У ЗША

Бонскі канцлер Кізінгер пасля два разы адкладваемага візіта пабываў у ЗША і правёў размовы з Джонсанам. Здаецца, што дэ Голь іменна на тое выступіў з прамовай да народа, каб перад выездам Кізінгера яшчэ раз падкрэсліць сваю незалежнасць ад ЗША. Абодвух палітыкаў (дэ Голя і Кізінгера) спалучае тое, што адзін і другі хочуць «вялікай Еўропы». Розняцца ў адным: дэ Голь хоча магутнай Еўропы без ЗША, а Кізінгер — абапіраючыся на ЗША. Розніца адна, але найістатнейшая.

## А Ў ЗАХОДНЯЙ ГЕРМАНІІ

... зноў пачулася «мірны» голас. На гэты раз гаварыў Г. Шміт, старшыня фракцыі сацыялдэмакратаў. Выказаўся ён аб замарожанні збраенняў у Еўропе (падобна да плану Гамулкі), але гэтае замарожанне мела б ахапіць толькі 4 краіны: ФРГ, ГДР, Польшчу і Чэхаславакію, прычым такі дагавор мелі б падпісаць вялікія дзяржавы, але сама ФРГ не падпісала б яго. (Навошта ў будучыні браць якую-небудзь адказнасць). Шміт гаварыў аб Еўропе без мілітарных блокаў пасля 1969 г., але адначасова гаварыў аб умацаванні НАТО. Гаворачы аб новай усходняй палітыцы Бон, Шміт адначасова дыскрымінаваў ГДР і не ўспамянуў аб усходніх граніцах.

Зрэшты, выручыў яго «аднапартыец» В. Бдант, міністр замежных спраў у бонскім урадзе, які, прабываючы з афіцыйным візітам у Румыніі, адмоўна выказаўся аб ГДР і сказаў, што справа граніц павінна пачакаць аж да падпісання мірнага дагавору. Усё ясна, як на талерцы.

## ПРЫВАТНАЕ ЖЫЦЦЁ ДЖОНСАНА

Ліндан Джонсан пражывае ў цэнтры Вашынгтона ў доме, які разам з мэбліроўкай каштуе 50 мільёнаў долараў. Утрыманне дома каштуе ў год 735 000 долараў. Гэта афіцыйныя расходы. Але ў прыватным жыцці прэзідэнт і яго сям'я мульцімільянеры. З'яўляюцца яны ўладальнікамі: зямлі, радыё-тэлевізійнай кампаніі, а таксама маюць акцыі ў банках Тэхаса. А.К.

# БССР

## МАШЭРАЎ

Цэнтральныя беларускія газеты надрукавалі артыкул П. Машэрава, першага сакратара ЦК беларускай кампартыі.

«Ідэі дружбы і салідарнасці, пралетарскага інтэрнацыяналізму ўвайшлі ў плоць і кроў савецкіх людзей. Камуністычная партыя згуртавала народы нашай вялікай шматнацыянальнай краіны ў адзіную, дружную сям'ю, дзе дзейнічае прынцып адзін за ўсіх і ўсе за аднаго.

Гэта адна з найвялікшых заваёў нашай партыі. Дзякуючы ёй беларускі народ упершыню ў гісторыі набыў сваю дзяржаўнасць. Разам з тым ён набыў і верных, надзейных сяброў у асобе брацкіх народаў першай у свеце краіны сацыялізма» — м. ін. піша Машэраў.

З артыкула Машэрава даведваемся, што ў апошнюю вайну больш як мільён беларусаў змагалася на франтах. Пад кіраўніцтвам беларускай кампартыі дзейнічалі на акупаванай тэрыторыі Беларусі падпольныя абкомы, райкомы і гаркомы партыі. Ужо ў 1943 годзе партызаны кантралявалі **шэсцьдзесят** працэнтаў тэрыторыі Беларусі, у партызанскіх руках знаходзіліся нават цэлыя раёны.

## УЗНАГАРОДА

Апублікавана ўказ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР аб узнагароджанні Ганаровай граматай і Граматай Вярхоўнага Савета БССР супрацоўнікаў і аўтараў, а таксама кальпарцёраў цэнтральнай беларускай газеты **«Звязда»**. Сярод узнагароджаных знаходзім прозвішча **Алеся Траяноўскага,** беларускага журналіста, вядомага і чытачам нашай «Нівы».

## УСЕСАЮЗНАЯ

У Мінскім Палацы культуры трактарнага завода адбылася ўсесаюзная навукова-тэхнічная нарада работнікаў горнахімічнай прамысловасці. У нарадзе ўдзельнічалі гаспадарчыя і палітычныя дзеячы Беларусі.

## «МАЛАДЗЕЧНАСЕЛЬБУД»

У сацыялістычным спаборніцтве сельскіх будаўнікоў за другі квартал гэтага года найлепшых вынікаў дабілася перасовачная механізаваная калона № 65 трэста «Маладзечнасельбуд», якая заваявала пераходны Чырвоны сцяг Савета Міністраў БССР і Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў. Гродзенскі калектыў ПМК № 13 трэста «Гроднасельбуд» здабыў пераходны Чырвоны сцяг Міністэрства сельскага будаўніцтва Беларускай ССР і прафсаюза рабочых будаўніцтва і прамбудматэрыялаў.

## ДЗЕНЬ

6 жніўня адзначаўся Дзень Чыгуначніка. Начальнік Балтыйскай чыгункі Г. Коцяш апублікаваў артыкул у газеце «Звязда» з нагоды Дня Чыгуначніка. **«...у сёлетнім годзе адпраўленне грузаў узрасце на чатыры мільёны тон і дасягне 42 мільёнаў»,** — м. ін. піша Коцяш. (С. Я.)

# ПОЛЬШЧА

## З В'ЕТНАМУ

13 жніўня прыбыла ў Варшаву дэлегацыя Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнаму з намеснікам Дзяржаўнай камісіі планавання Ле Вет Лонгам на чале. Дэлегацыя перадыскутуе справы звязаныя з прафесіянальным абучэннем грамадзян В'етнама на вышэйшых навуковых установах і прадукцыйных прадпрыемствах Польшчы.

## АФРЫКА І ЗДАРОЎЕ

Штогод выязджае ў цёплыя краіны каля 11 тысяч матросаў і рыбакоў і каля 6-ці тысяч спецыялістаў розных галін жыцця. Даследы Інстытута марской медыцыны ў Гданьску паказалі, што кожны сёмы грамадзянін, які вяртаецца з цёплых краін, хварэе на нейкую трапічную хваробу. Хваробы гэтыя ў большасці заразлівыя, і таму лекары баяцца, што могуць яны распаўсюдзіцца ў Польшчы. Таму пастулюецца абавязковае медыцынскае абследаванне кожнага грамадзяніна, які вяртаецца з трапічных краін, а таксама замежных нашых гасцей, якія адтуль прыбываюць, а ў прыватнасці студэнтаў.

## ЦЫБУЛЬСКІ

На экраны ўваходзіць фільм пад загалоўкам «Забойца пакінуў след», у якім у апошні раз выступіў трагічна загінуўшы польскі акцёр Збігнеў Цыбульскі. У сувязі з тым, што кінастудыя не паспела найграць голасу Цыбульскага, заступае яго на экране голас Ламніцкага.

## 14

На сімпозыум сарганізаванае з нагоды 100 гадавіны з дня нараджэння вялікай вучонай Марыі Кюры-Складоўскай прыедзе ў Польшчу аж 14 лаўрэатаў нобелеўскай прэміі.

## НАСТАЎНІЦКАЯ АДУКАЦЫЯ

У школах краіны працуе зараз 290 тысяч выхаваўцаў. З гэтага ліку 108 тыс. закончыла настаўніцкія студыі, 31 тыс. мае дыпломы магістраў, 231 — дактароў. Сярод настаўнікаў пачатковых школ дыпломы магістра мае 3 працэнты, у агульнаадукацыйных ліцэях — 59,3 прац., колькасць настаўнікаў — магістраў у пачатковых школах пастаянна ўзрастае: у 1965 годзе было іх 5349, а годам пазней — 6451. Першае месца з увагі на колькасць настаўнікаў агульнаадукацыйных ліцэяў з дыпломамі магістраў займае Быдгоскае ваяводства, далей ідзе Катавіцкае, Зялёнагурскае, Лодзінскае і Гданьскае. На апошнім месцы знаходзіцца Варшава, якая дыспануе найбольшым у краіне ўніверсітэтам.

Інстытут педагагічных навук пры Варшаўскім універсітэце высунуў апошнім часам праект рэформы адукацыі настаўнікаў. (п)

**Калектыў рэдакцыі «Нівы» глыбока смуткуе з прычыны смерці намесніка галоўнага рэдактара ўкраінскага тыднёвіка «Нашага Слова» АДРЫЯНА ГАШОЎСКАГА**

# ВАЯВОДСТВА

## ШТУЧНЫЯ ЎГНАЕННІ

У 1969—1970 г. Беластоцкае ваяводства атрымае 171 тысячу тон штучных угнаенняў. Гэта дазволіць падсыпаць на кожны гектар земляных угоддзяў у сярэднім на 119 кг. хімічна чыстых угнаенняў. Найбольш атрымаюць ПГР-ы. Там паказальнік узрасце да 250-ці кілаграмаў. Выразна пакрыўджаны будуць Гайнаўскі, Кольненскі і Бельскі паветы. Атрымаюць яны да 95-ці кг. на 1 га. Гэта паясняюць нізкай рэнтабельнасцю сельскагаспадарчай прадукцыі ў гэтых паветах.

## ЭКСКУРСІЯ

Члены спулдзельні прадукцыйнай у Крывой (Бельскі павет) пры дапамозе турыстычнай спулдзельні «Грамада» наладзілі нядаўна краязнаўчую экскурсію. Пабывалі яны ў Любліне, Бяшчадах і Кракаве.

## З КУЗНІЦЫ ЗА МЯЖУ

Жыхары Кузніцы па заказу прадпрыемства «Лес» выплятаюць прыгожыя кошыкі з ракіты. Кошыкі іх вырабу прадпрыемства «Лес» адпраўляе ў Англію і Амерыку. Вартасць прадукцыі кузніцкіх рамеснікаў складзе ў гэтым годзе суму ў 4 мільёны злотых.

## КНІГАРНЯ Ў БЕЛАВЕЖЫ

Прадпрыемства «Дом Кніжкі» будуе ў Белавежы новую кнігарню. Будзе яна адкрыта ў верасні гэтага года. Таксама яшчэ ў гэтым годзе новыя кнігарні атрымаюць Бельск і Кольна.

## КРОЎ

На працягу першага паўгоддзя гэтага года жыхары Беластоцкага ваяводства аддалі бясплатна для патрэб лячніцтва 2140 літраў крыві. У ганаровай аддачы крыві першынствуюць Сакольскі, Дуброўскі, Лапскі, Элцкі і Сейненскі паветы.

## УРАДЖАЙ РАПСУ

У Сямяціцкім павеце сёлета незвычайна добра абрадзіў рапс. Магазіны ўсіх ГС-аў перапоўнены яго зернем. Ад 10 жніўня ГС-ы спынілі прыём рапсу ад сялян. Гаспадары злуюць, што няма ім дзе дзяваць гэтай прамысловай культуры.

## АДНАДНЁЎКА «КАНТРАСТЫ»

У кіёсках «Рух» можна купіць навейшы нумар літаратурна-грамадскага журнала «Кантрасты», які выдала Беластоцкае таварыства культуры супольна з аддзелам прапаганды ВК ПАРП. «Кантрасты» змяшчаюць творы беластоцкіх паэтаў і пісьменнікаў, а таксама публіцыстычныя артыкулы мясцовых аўтараў.

## «ЗОРКІ ПОЎНАЧЫ»

Так завецца фінляндскі эстрадны ансамбль, які ў днях 7—14 жніўня пабываў на Беласточчыне. Выступаў ён з канцэртамі амаль ва ўсіх павятовых гарадах.

## КАНТРАКТАЦЫЯ ЗБОЖЖА

Гайнаўскі павет поўнасцю выканаў ужо план кантрактацыі збожжавых культур на 1968 год. Сяляне Гайнаўшчыны закантрактавалі 2600 гектараў. Першымі ў павеце аказаліся Нараўкоўская, Нараўская, Кляшчэлеўская і Палічнаўская грамады. (вр)




NIEDZIELA, 20. VIII.

8.55 Program; 9.00 Wszechzwiązkowy festiwal sztuki dziecięcej (Kiszyniów); 9.30 Przerwa; 11.15 Program; 11.20 „Przypominamy, radzimy" — „Uprawa poplonów"; 11.30 „Koń, który mówi" — film; 12.00 Dziennik; 12.10 „Reżyser i aktor" („W starym kinie"); 13.10 PKF; 13.20 „Ostatnie lata Wielkiego Kantora" (Jan Sebastian Bach) („Sezam muzyczny"); 13.45 „Flip i Flap w filmie „Koniec kłopotów" — USA; 14.45 „Przemiany"; 15.25 Teatrzyk w Koszu; 16.15 Koncert jazzowy. Grają zespoły Theloniusa Monka i Trio Jacques Loussier „Play Bach"; 16.55 Finał Centralnej Spartakiady w lekkiej atletyce; 19.00 „W krainie rzeźbiarza" — rep. film.; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Divertimento c-moll"; 20.40 „Trzy plus dwa" — film fab. radz.; 22.05 Niedziela Sportowa.

PONIEDZIAŁEK, 21. VIII.

17.20 Program; 17.25 Dziennik; 17.30 „Naj... naj... naj..." — film rysunkowy radz.; 17.50 „Eureka"; 18.20 „Kino Krótkich Filmów"; 19.00 Koncert kameralny utworów instrumentalnych i wokalnych klasyki radzieckiej i światowej w wykonaniu laureatów międzynarodowych konkursów (Moskwa); 19.30 „Dobranoc"; 19.40 Dziennik; 20.35 IV TELEWIZYJNY FESTIWAL TEATRÓW DRAMATYCZNYCH: Dramat „Hedda Gabler" H. Ibsena. (Przeniesienie z Teatru Polskiego w Warszawie); ok. 22.05 Dziennik.

WTOREK, 22. VIII.

10.00 „Cienie nad Notre Dame" — tv film fab. NRD, cz. III; 11.05 Przerwa; 17.05 Program; 17.10 „Telekram"; 17.25 Dziennik; 17.30 Teleferie. W programie. „Telewizyjna Kronika Podwórkowa"; „Przygody Robin Hooda" — film, „Gitara" — film pol.; 19.05 Telewizyjny Kurier Warszawski; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik; 20.05 „Zdroje zmazane z mapy"; 20.30 „Cienie nad Notre Dame" — tv film fab. NRD cz. III; 21.35 Kronika Kulturalna: „Osieki 67"; 21.55 Dziennik.

ŚRODA, 23. VIII.

10.00 „W stronę księżyca", film fab. rum.; 11.15 Przerwa; 17.05 Program; 17.10 PKF; 17.20 Dziennik; 17.25 „Tramp" — magazyn turystyczno-krajoznawczy; 17.45 „Lisie tropy" — film jug.; 18.05 Wszechnica TV: „Teatr na Wyspie" („Spacery Warszawskie"); 18.35 „Z albumu muzyki dawnej". Gra Zespół „Classici Silesiani"; 19.05 Przemówienie Ambasadora Rumuńskiej Republiki Ludowej w Polsce z okazji święta narodow. Rumunii; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik; 20.05 „Poligon"; 20.40 „Samotność" — film tv pol.; 21.10 „Światowid"; 21.40 „Sprawa przeciwko Eliotowi Ness" — film tv USA; 22.30 Dziennik.

CZWARTEK, 24. VIII.

17.20 Program; 17.25 Dziennik; 17.30 „Złote łuki" („Medale i detale"); 17.30 „Cobulek" — film radz.; 18.30 „Urlop po polsku" („Czwarta zmiana"); 19.05 „Pancerne uderzenie"; — film pol.; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik; 20.05 „Czarny monokl" — film fab. fr.; 21.40 „Proces Reinefharsta"; 22.10 Dziennik.

PIĄTEK, 25. VIII.

10.00 „Gorsza miłość" — film fab. węg.; 11.25 Przerwa; 17.25 Program; 17.30 Dziennik; 17.35 „Teleferie". W programie: „Liga Entuzjastów Wakacji", „Przygody Robin Hooda" — film; 18.40 Wszechnica TV: „Wieczory w Łazienkach"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik; 20.05 IV TELEWIZYJNY FESTIWAL TEATRÓW DRAMATYCZNYCH: Dramat „Makbet" W. Szekspira. (Transmisja z Teatru im. J. Słowackiego w Krakowie); ok. 21.45 „10 minut recenzji"; 21.55 „Magazyn Medyczny"; 22.25 Dziennik.

SOBOTA, 26. VIII.

10.00 „Statek odpływa o świcie" — film fab. radz.; 11.40 Przerwa; 16.30 Program; 16.35 Program Tygodnia; 16.55 Dziennik; 17.00 Sprawozdanie z międzynarodowych zawodów pływackich o Wielką Nagrodę Warszawy; 18.00 „Jak praktykować" („7 milionów młodych"); 18.15 „Poselstwo króla Jerzego" — film CSRS; 18.35 „Warszawa, ja i ty"; 19.00 „W Soczi" — film tv radz.; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 „Monitor"; 20.10 „Paryż w sierpniu" — film fab. fr.; 21.50 Dziennik; 22.05 Wiadomości Sportowe; 22.15 Teatr Rozrywki: „Dwie wdowy" — farsa współczesna T. Kwiatkowskiego.




**Piątek, 18 sierpnia**

14.45 Dziennik; 14.50 Dla dzieci; 15.00 Tydzień Łotewskiej SRR w Moskwie; 16.00 VIII Białoruski Zlot Turystów; 16.20 Dziennik; 16.35 Film; 17.30 Kronika pięciolatki; 17.50 Puchar Europy w skokach do wody; 19.00 Sztafeta nowin; 19.55 Program z Leningradu; 20.15 Festiwal piosenki w Sopocie.

**Sobota, 19 sierpnia**

10.00 Dziennik; 10.05 Teatr lalek; Dla przedszkolaków; 11.10 W eterze „Młodość"; 12.10 „U źródeł pieśni ludowej"; 12.50 VIII Białoruski Zlot Turystów; 13.10 „O tym muszą wiedzieć wszyscy"; 13.30 Dziennik; 13.50 Program muzyczny; 14.00 Dzień ZSRR na „Expo-67"; 15.00 Piłka nożna. „Torpedo" (Moskwa) — „Dynamo" (Moskwa); 17.30 „Rok 1919". TV seryjny film dokumentalny; 18.20 Klub Filmowy; 19.15 Puchar Europy w skokach do wody; 20.15 Festiwal w Sopocie.

**Niedziela, 20 sierpnia**

7.55 Program; 8.00 „Budzik"; 8.30 Gimnastyka; 9.00 Wszechzwiązkowy Festiwal Twórczości Dziecięcej; 9.30 Z historii twórczości amatorskiej; 10.15 Dla dzieci. Program z NRD; 11.00 Dla żołnierzy. 11.30 Dla uczniów; 12.00 Program z Węgier; 12.30 Tydzień Łotewskiej SRR w Moskwie; 13.00 Kiosk muzyczny; 13.30 Dziennik; 13.40 Panorama Filmowa; 15.00 Puchar Europy w skokach do wody; 16.00 „Blaski i cienie"; 16.30 Tydzień Łotewskiej SRR w Moskwie; 17.15 Kronika Filmowa; 17.35 „Rok 1920". Film seryjny. 18.30 Dziennik; 19.00 TV Teatr Miniatur; 20.00 Festiwal Pieśni Tanecznych TV węgierskiej.

 

**(ДА ПЯЦІДЗЕСЯЦІГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ П. ПАНЧАНКІ)**

# Неспакойнае сэрца паэта



Пімен Панчанка

Вось ужо больш трыццаці гадоў вядзе ў паэзіі няспынныя пошукі Пімен Панчанка, папулярны сучасны паэт Беларусі. Яго паэтычныя адкрыцці (больш трыццаці зборнікаў вершаў) — гэта цэлы свет пачуццяў савецкага чалавека, свет шчырасці, чалавечнасці, глыбокай адданасці свайму народу.

Незаўважальную сцежку да сэрца чытача ўпарта шукае паэт. І ён знаходзіць яе. Знаходзіць кожны раз па-новаму, прыносячы радасць чытачу, запрашаючы яго падумаць, паразважаць з непаўторным успрыняццем глянуць на жыццё, на чалавека. Чытач пры гэтым ніколі не адчувае прынукі, прымусу над сваёй воляй: і ён сказаў бы, зрабіў бы так, як гэта робіць паэт.

Прычына такога ўздзеяння крыецца ў даверлівай шчырасці паэта да чытача, у цесным зліцці сэрц лірычнага героя, паэта і чытача. Гэта — свяшчэнны кантакт, які дапамагае распахнуць людскія душы і робіць кожнае слова паэта словам і справай чытача.

Паэзія П. Панчанкі ў няспынных пошуках знайшла свайго лірычнага героя, які расце разам са сваёй Радзімай і які так цесна звязаны з жыццём самога аўтара, што часам нават прафесіянальным крытыкам даводзіцца спрачацца, каб акрэсліць ступень аўтабіяграфізму і творчага вымыслу ў творах паэта. Кожны верш паэта — гэта глыбокае філасофскае разважанне аб сутнасці існавання, чалавечнасці, аб дабраце і прыгажосці.

Пімен Панчанка — паэт пакалення, народжанага ў вогненным 1917 годзе, пакалення, якое расло, будавала і вучылася, змагалася і перамагала з першай у свеце краінай рабочых і сялян. Гэта паэт, грамадска мыслячы, які жыве радасцямі і болямі суайчыннікаў, паэт, які поўнасцю дзеліць людскія лёсы свайго пакалення. І сама паэтычная біяграфія, якая так выразна выражаецца ў вершах, пацвярджае гэта.

Пімен Эмяльянавіч Панчанка нарадзіўся 23 жніўня ў горадзе Таліне, у сям'і беларускага селяніна, які яшчэ задоўга да першай сусветнай вайны ў пошуках хлеба і заработку пайшоў працаваць на суднабудаўнічы завод. Нялёгкае жыццё сям'і стала яшчэ цяжэйшым, калі бацьку забралі на вайну. Ужо ў тыя гады адчуў паэт дабрату эстонскіх пралетарыяў, веліч салідарнасці, якіх ён потым уславіць у вершы «Шапка эстонца».

У 1920 годзе сям'я вярнулася на радзіму, у мястэчка Бягомль, Мінскай вобласці. Тут прайшлі гады дзяцінства і вучобы будучага паэта. У гэтыя гады здольны юнак захапляецца паэзіяй А. Пушкіна і Г. Гейне, Я. Купалы і Я. Коласа, Ул. Маякоўскага і Э. Багрыцкага, пачынае сам пісаць вершы. Аб гэтым перыядзе ў сваім жыцці ён пазней шмат расказвае ў сваіх вершах і паэмах.

Пасля сямігадовай школы Пімен Панчанка працуе нейкі час у Бабруйску на дрэваапрацоўчым камбінаце. У 1934 годзе аконцыў педагагічныя курсы і становіцца настаўнікам спачатку пачатковай, потым сярэдняй школы, адначасова вучыцца ў Мінскім педінстытуце.

З 1939 года па 1946 год Пімен Панчанка служыць у Савецкай Арміі. Ён удзельнічаў у вызваленчым паходзе ў Заходнюю Беларусь, змагаўся на франтах Вялікай айчыннай вайны, разам з савецкімі войскамі пабываў у Іране ў якасці ваеннага журналіста. Пасля дэмабілізацыі паэт жыве ў Мінску, займаецца літаратурнай работай.

У год слаўнага юбілею Вялікага Кастрычніка адзначаецца пяцідзесяцігоддзе Пімена Панчанкі. Невялікая заслуга, прызнаецца паэт у вершы «Радзіма», быць аднагодкам краіны. Бо ён з тых, што прызвычаіліся адзначаць свае імяніны не перахвалкамі, а справай, няспыннай працай. І што гэта так — сведчаць створаныя ім дзесяткі добрых твораў, яго новыя пошукі і парывы, творчы непакой яго сэрца.

**М. Міхайлаў**



Пімен Панчанка (справа) і Янка Брыль.



# ВЯЛІКІ ЧЫТАЛЬНІЦКІ КОНКУРС

**ХТО ШТО СКАЗАЎ?**

**Іван Сахарчук**
Сухавольцы, Гайнаўскі павет.
20 год, гаспадар
Прачытаў:
**«Новая зямля»** Я. Коласа
**«Нямігі крывавыя берагі»** У. Карпава
**«Бацькаўшчына»** К. Чорнага.

«Выбраныя творы вельмі мне падабаліся за тое, што аўтары ў іх паказваюць барацьбу народа з фашысцкімі захопнікамі, ваенныя лёсы Мінска, змаганне падпольшчыкаў, звярынае аблічча акупанта».

**Люба Базылюк**
Кляшчэлі, Гайнаўскі павет.
22 гады, тэхнік-аграном.
Прачытала:
**«Паэмы»** Я. Купалы.
**«Што ён за чалавек»** І. Мележа.
**«Хлопцы з другога корпуса»** У. Нядзведскага.

«Творы мне гэтыя падабаліся. І таму, што яны вобразна прадстаўляюць факты ў вельмі прыступнай форме. «Што ён за чалавек» — у гэтым творы асабліва кранае мяне псіхіка чалавека, яго рэакцыя на паасобныя сітуацыі».

**Ніна Юрчук**
Дубіны, Гайнаўскі павет.
19 год, на вёсцы
Прачытала:
**«Новая зямля»** Я. Коласа
**«Салавей»** З. Бядулі
**«На прасторах жыцця»** Я. Коласа.

«Чытаючы гэтыя творы, мне здавалася, што старонкі запоўнены не літарамі, а малюнкамі, якія паўсталі пад рукой таленавітага мастака. Здарэнні, апісаныя ў творах, сцісла з сабой павязаны. З усіх бакоў чалавека акружае прырода. Чытачу памагае яна раскрыць глыбей псіхалогію і настроі герояў. Мне здаецца, што кожны, хто хоча пазнаць мінулае нашага народа, павінен прачытаць хоць адзін з двух першых твораў. Аповесць «На прасторах жыцця» раю прачытаць нашай моладзі».

# БГКТ

(Працяг са стар. 1)

Міхась Глінскі — пастка.

**Макаркі**

Янка Цецюк — нацягвач да абручоў, варштат віць вяроўкі, сальнічка, бандарскі прытрымвач, «праўда» — каляснічая прылада, пчалярская сікаўка, кармушка для пчол.

**Клекатова**

Міхась Гаўрылюк — жорны (арыгінальныя) «жарабік», осці, сякачка да мяса;

Сцяпан Пура — пастка, пэндзаль з лыку.

**Агароднікі**
Уладзіслаў Кікча — жак.

**Навасёлкі**
Мікалай і Ніна Турыкі — вітушкі, зацінач дна, матыка.

**Мікулічы**
Янка Карпюк с. Юстына — капкан.

На гэтым заканчваем пералік падарункаў для беларускага музея ў Белавежы.

Кіраўнік культурна-асветнага аддзела БГКТ
мгр М. Лобач

# БЕЛАСТОЦКАЯ ПАМЯТКА Ў ВАРШАВЕ

Мы ўжо пісалі аб конкурсе на памяткі, які даў вялікі плён. У Беластоку была выстаўка ўзнагароджаных памятак, а потым многія з іх паехалі на выстаўку памяткі ў Варшаве. Агульнапольская выстаўка памятак была адкрыта на пачатку ліпеня ў салоне мастакоў на МДМ. Як весці нясуць, беластоцкая памятка выклікала найбольшае зацікаўленне. Дасканала! Маўчалі, маўчалі нашы творцы, а як адазваліся, то адразу голасна. (вл)

**ЧВЭРЦЬ СТАГОДДЗЯ НАЗАД.** **С. Новік-Пяюн**

# КАЛДЫЧЭВА

**Беларускі паэт Сяргей Новік-Пяюн быў вязнем фашысцкага лагера смерці Калдычэва.**

**Вось што ён расказаў «Ніве» аб гэтым лагеры.**

У шаснаццаці кіламетрах на паўночны-ўсход ад горада Баранавічы, не даязджаючы да мястэчка Гарадзішча знаходзіўся былы маёнтак памешчыка Шалевіча Калдычэва.

З лета 1942 года гітлераўцы зрабілі ў Калдычэве лагер смерці.

Са Слонімскай турмы праз баранавіцкую турму нас, 92-х антыфашыстаў, прывезлі на дзвюх грузавых аўтамашынах у поўдзень. Перад домам камендатуры нас выстраілі ў тры рады і пратрымалі так да вечара.

Потым арыштаваных пачалі выклікаць па чарзе ў камендатуру. Першай была выклікана маладая настаўніца. Бегчы трэба было хутка. Праз мінуту да нашага слыху данесліся з камендатуры, праз адчыненую фортку, жахлівыя крыкі, а праз некалькі мінут настаўніцу выштурхнулі два п'яныя раз'юшаныя бандыты-эсдоўцы. Настаўніца была ўся пабітая, акрываўленая, сукенка на ёй падзёртая. За ёй паследавалі і іншыя, і нарэшце, дайшла чарга да мяне. Мяне ўштурхнулі ў маленькі белы пакойчык, у якім сядзела дзевяць эсдоўцаў: два немцы, іншыя ў нямецкай форме СД.

На сцяне, як каўбасы ў мясным магазіне, віселі гумавыя дубінкі рознай велічыні. Адзін дзяцюк спытаў маё прозвішча, імя, імя па бацьку, год нараджэння, веравызнанне, нацыянальнасць і спецыяльнасць. Калі ён даведаўся, што я беларускі паэт, зусім раз'юшыўся.

— Га! Беларускі паэт! У сваіх вершах бальшавікоў выхваляў! — закрычаў эсдовец.

Прыйшоў немец-перакладчык і, пагражаючы кулаком перад маім носам, сычэў па-руску:

— Што ві тумаете, што прітут польшэвікі? Мошет быт оні і прітут, но мы вас тут ні отнофо не остафім!

Пасля прыйшоў у форме лейтэнанта СД камендант лагера Калько Мікалай.

Немец Варэнбург, намеснік шэфа Слонімскага СД, сказаў па-руску Кальку:

— Палюбуйцеся, пан лейтэнант: беларускі паэт!

— Беларускі паэт? Як прозвішча? — спытаў Калько.

— Новік-Пяюн! — адказаў я.

— Як імя? — зноў спытаў ён.

— Сяргей.

Тады Калько маланкава ўдарыў мяне кулаком у ніжнюю сківіцу. Я паваліўся ад неспадзяванага моцнага ўдару і стукнуўся патыліцай аб дзверы. Дзверы адчыніліся і я ўпаў. Адтуль, з калідору пасыпаліся ўдары гумавымі кручанымі дубінкамі! Затым прыступілі да «працы»: Варэнбург і белабрысы малады эсэсавец з дзвюма ордэнскімі стужкамі на мундзіры.

Як гаспадары малоцяць на таку жыта ў два цапы, так малацілі дубінкамі мяне фашысты. Я не вымавіў ні гуку і цярпеў, сцінуўшы зубы, хаця разбітая сківіца моцна балела. Яны падымалі мяне і зноў білі.

Нарэшце мяне, збітага, выштурхнулі на калідор, дзе стаялі два п'яныя бандыты з вялізнымі гумавымі дубінкамі. Яны таксама накінуліся на мяне.

На ганку адзін чубаты эсдовец зрабіў у мяне вобыск. Ён біў мяне кулакамі ў грудзі, жывот і плечы. Не знайшоўшы нічога, эсдовец спрабаваў падсунуць у кішэнь пяро, але я заўважыў і сказаў:



 



# Калдычэва

— Я такім пяром не пішу!

— А, прыкмеціў! — злосна закрычаў бандыт.

Артыст эстраднага тэатра Павел Карасевіч не вытрымаў катаванняў і застаўся ляжаць на падлозе мёртвым. Яго загадалі вынесці на панадворак, а нас прымусілі глядзець на акрываўлены труп на працягу паўгадзіны.

Калі «прыём» усім асуджаным быў закончаны, перад намі адчыніліся вароты з калючага дроту і нас усіх — дзевяноста аднаго чалавека — загналі ў лагер.

Тут камендант лагера Калько даў нам загад нашыць па дзве палоскі з белага палатна на спіну, грудзі і правае сцягно.

Тэрыторыя лагера была засыпана пяском так, што аніводная траўка не расла на панадворку.

Жанчын загналі ў барак, а мужчын выстраілі адзін за адным уздоўж агароджы з калючага дроту, праз які быў праведзены ток высокага напружання.

У лагеры былі вязні розных нацыянальнасцей: рускія, украінцы, палякі, яўрэі, а найбольш было беларусаў. Тут былі ўрачы, свяшчэннікі, ксяндзы, настаўнікі, рабочыя, сяляне, рамеснікі, старыя, маладыя, дзеці.

«Кармілі» тры разы на дзень: раніцай — бурда-вада, прыпраўленая тухлай мукой, без солі, семдзесят пяць грамаў так званага хлеба, у абед тая ж бурда і семдзесят пяць грамаў хлеба. Увечары вада або бурда без хлеба.

Хлеб чорны з рознай дамешкай, цвілы, абгрызены пацукамі, якіх у бараках было такое мноства, а яны такія нахабныя, што і ў дзень адважна лазілі па бараках, кусалі людзей.

Душагубы-эсдоўцы закатавалі доктара Навіцкага за тое, што ён аказаў медыцынскую дапамогу хворым вязням, магчымую ў тых страшных умовах.

У другой палове чэрвеня 1944 года ў лагер прыйшоў шэф лагера немец-эсэсавец Іорн Іоган з камендантам Калько. Ён даў каманду біць пацукоў, а сам пайшоў.

Вязні былі накіраваны на гарышча стайні-барака для біцця пацукоў. Забілі дзевяноста два пацукі і скінулі на панадворак у кучу. Прыехаў асенізатар з бочкай і адвёз пацукоў разам з нечыстотамі на звалку. Папоўдні прыйшоў зноў Іорн і спытаў колькі забіта пацукоў. Яму адказалі.

— Дзе яны? — спытаў Іорн.

Калі ён даведаўся, што пацукі вывезены на звалку, раз'юшыўся і загадаў зараз жа расстраляць няшчаснага асенізатара. Аказалася, Іорн хацеў зняць шкуркі з пацукоў!

28 чэрвеня 1944 года расстралялі агранома Нікалаева з жонкай і дзяцьмі-малюткамі — сынам і дачкой, урача Шварца з мястэчка Гарадзішча з жонкай і двума дзяцьмі, дваццацігадовую настаўніцу, якую ў лагеры называлі «цыганачкай» за яе надзвычайную прыгажосць, разам з яе шасцімесячнай дачушкай. Калі каты вырывалі дзіця, а «цыганачка» не давала, баронячы, дык адарвалі ручку няшчаснай малюткі.

92-гадовага свяшчэнніка Аляксандра Валасовіча расстралялі. Свяшчэнніка Мікалая Хільтова прывязалі да жалезнага ложка, расклалі пад ім агонь і жыўцам спалілі, а яго жонку Наталлю — расстралялі.

Аднаго хлопчыка — Паркоўскага, — які намагаўся ўцячы з лагера, эсдоўцы злавілі, прывязалі да слупа каля варот, білі палкамі па галаве і загадвалі крычаць: «Уцякаў, ды злавілі!» і брахаць па-сабачаму. Затым, пасля катаванняў, хлопчыка павесілі на варотах лагера, а ўсім вязням загадалі хадзіць вакол трупа.

Расстралялі каваля Беньку Васіля з вёскі Лявонавічы, Нясвіжскага раёна.

Кожны ахоўнік, як правіла, меў пры сабе апрача зброі кій, якім збіваў вязняў за абы што.

У лагеры былі дзве дрэсіраваныя сабакі, якіх пацкоўвалі на ахвяру, якую дапытвалі.

Калі толькі з боку Баранавіч з'яўлялася чорная легкавая аўтамашына, мы ведалі, што зараз пачнецца раз'юшаны брэх сабак, што пачалося катаванне чарговай ахвяры. Марозіў у жылах кроў від маладой дзяўчыны, якая вярнулася з гэткага «допыту». Яна ішла ледзь-ледзь, падганяемая нагайкай раз'юшанага эсдоўца Юзэфа Прончака, у падзёртай сукенцы, пакусаная сабакамі, акрываўленая.

(Заканчэнне за тыдзень)



Рыгор Крот даглядае свой сад.

# ПРАФЕСІЯ: ГАСПАДАР

**«Зямля мае сваю мову. Яе неабходна разумець».**

Так гаворыць **Рыгор Крот** — гаспадар вёскі Грыгароўцы ў Бельскім павеце.

— Вось вам прыклад. Пасеялі мы пшаніцу: мой сусед і я. Палі нашы раздзяляла толькі баразна. Сусед да сваёй пшаніцы не прыглядаўся. Вясною падсыпаў поўную дозу штучнага ўгнаення і цешыўся, што ён вельмі разумны. І сапраўды, яго пшаніца адразу зазелянілася, стала прыгожа расці. Я аднак не спяшаўся. Гляджу на сваю пшаніцу: яна зялёная, расце добра, значыць, угнаення пакуль што не трэба. Пачакаў яшчэ нейкі час, а затым падсыпаў паўметра «мочніку». Калі пшаніца пачала каласіцца, дык даў для яе яшчэ крыху ўгнаення. Суседава пшаніца пасля нейкага часу занепала, а мая — **дала калоссе ў 20 см даўжыні.** Нават з бельскага сельскагаспадарчага аддзела прыязджалі глядзець яе.

**Бачыце, у сельскагаспадарскай рабоце вельмі часта трэба назіраць за ўсім, што пасеяна.** Зямля, на якой расце збожжа ці другія расліны, пастаянна інфармуе гаспадара, чаго яна патрабуе. Гэта відаць па выгляду раслін.

Толькі трэба навучыцца разумець гэтую мову зямлі. Яна не надта ж складаная і кожны, хто хоча, можа яе хутка засвоіць.

Я пачаў ад вопытаў у 1956 годзе. Інстытут апрацоўкі зямлі і глебазнаўства шукаў тады гаспадароў, якія на сваіх палях захацелі б заснаваць вопытныя дзялянкі. Мой швагер працаваў аграномам у Бельску. Ён мяне падгаварыў. Ніякай падрыхтоўкі я не меў, у ніякай сельскагаспадарчай школе таксама не вучыўся. Гаспадарыў як кожны другі ў нашай вёсцы.

Першы вопыт быў няўдачны. Суседзі смяяліся:

— Глядзіце, Крот на сваім полі калочкаў нейкіх наставіў.

— І абразы паразвешваў!

А гэта былі дошчачкі, на якіх я абазначаў, дзе і якое расце збожжа, якія дозы штучнага ўгнаення атрымалі паасобныя дзялянкі поля і другія неабходныя для мяне інфармацыі.

Другі вопыт зводзіўся да таго, каб пераканацца, калі пры нашых умовах найлепш сеяць жыта. Разбіў я поле на некалькі дзялянак і высяваў жыта што два тыдні. Вопыт удаўся. Вясною, калі жыта зазелянілася і набрала сілу, адразу з першага позірку можна было адрозніць, што найлепш сеяць не запозна і не зарана. Гэты вопыт вельмі просты і можа паставіць яго кожны гаспадар.

Абыякавасць аднавяскоўцаў пераадолеў я, калі завёў у сябе азімыя зялёнкі. Сеяў кармавую (так званую касматую) віку, жыта і райгрэст. З гэтай сумясі на вясну атрымліваўся адборны корм для кароў і свіней. У палавіне мая касіў я гэтую зялёнку і пасля культывавання садзіў пад плуг бульбу. Гэты метад хутка распаўсюдзіўся па вёсцы.

Аднак найбольш пераканаўчым быў вопыт са штучным угнаеннем. Адвёў я кавалак поля ў 15 араў. Восенню падсыпаў роўна ўсюды па 45 кілаграмаў суперфасфату і калійнай солі (патасовай) ды дадаў яшчэ 5 кг салетры (салетшаку). Пасля пасеяў жыта. Затым гэтыя 15 араў разбіў яшчэ на некалькі дзялянак плошчаю ў 1 ар. Вясною адну дзялянку пакінуў без дадатковага ўгнаення, на другую даў яшчэ 0,30 кг, на трэцюю — 0,60 кг, на чацвёртую — 0,90 кг, на пятую — 1,20 кг штучных угнаенняў. **І зноў атрымалася мазаіка ўраджаяў.** Жыта, якое расло на полі без дадатковага ўгнаення, выдавалася як карлік ля таго, што атрымала саму высокую дозу.

Прыехала камісія з інстытута. Абмацілі маё жыта і ўсё дакладна палічылі. Атрымалася аж 30 цэнтнераў з аднаго гектара на той дзялянцы, дзе было найбольш угнаенняў. Там, дзе зусім не падсыпаў штучнага ўгнаення, жыта вырасла мізэрнае, быццам хваравітае і не дало нават палавіны ўраджаю.

Тады я пераканаўся, што нельга шкадаваць грошай на штучныя ўгнаенні. І другія сяляне пачалі больш прыхільна да іх адносіцца. Зараз дайшло да таго, што гаспадары гавораць: **«Глядзі, калі на поле не даў, дык няма чаго збіраць. Ці ўжо збожжа так навучана?»**

Пытаецеся, з чаго ў гаспадарцы найлепшы даход? У мяне асновай даходу з'яўляецца кантрактацыя збожжа, бульбы і цялят. Мая бульба ідзе аж у Марока. **У мінулым годзе з аднаго гектара закантрактаванай бульбы атрымаў я 50 тысяч злотых чыстага даходу.** У гэтым зноў закантрактаваў я паўтара гектара бульбы. Каб не кантрактацыя, не змог бы я на працягу паўтара года пабудаваць сабе мураванку. Яна каштавала мне ўжо 130 тысяч злотых ды яшчэ спатрэбіцца звыш 50-ці тысяч. Хачу абсталяваць яе «па-гарадскому»: з цэнтральным аграваннем, з вадой з кранаў, з ванным пакоем і другімі выгодамі. Прыедзьце за год, тады пабачыце.

* ✲ *

Паабяцаў я Рыгору Кроту, што абавязкова наведаю яго за год. **Цікава сустрэцца з чалавекам, які да сваёй прафесіі ГАСПАДАРА адносіцца так сур'ёзна, разумее яе і вывучае. Такія гаспадары вызначаюць будучыню нашай вёскі.**

**В. Рудчык**
фота аўтара

# РАМОНТ ШКОЛ

**Часта, на жаль, бывае так, што летнія рамонты ў школах зацягваюцца да позняй восені. Найбольш тады пакрыўджаныя дзеці, якія абавязаны распачаць навуку ў неспрыяльных умовах.**

**У Нараўцы прэзідыум ГРН пастараўся ў гэтым годзе так наладзіць рамонты ў школах, каб вучні нараўкаўскай грамады не мелі падобных клопатаў. Да першых дзён жніўня рамонты праведзены ў Нараўцы, Альхоўцы і Скупаве. Пасля гэтага зараз распачаліся рамонты школ у Плянце, Масеве і ў другіх вёсках. Новы год дзеці пачнуць тут у адсвежаных пахучых вапнай школах.** (вр)




**«ЛАЯЛІСТЫ І РЭАЛІСТЫ»**

Адзін з першых вынікаў катастрофы стаў і адным з самых абуральных: раскол сярод людзей, блізкіх да прэзідэнта. Самыя адданыя людзі, якія аплаквалі Джона Кенедзі, не маглі прыладзіцца да Ліндана Джонсана. Рэалісты прызналі пераемніка нябожчыка прэзідэнта, часам са здзіўляючай гатоўнасцю. У першыя ж мінуты пасля апошняга выстралу сакрэтную службу пачаў раздзіраць раскол паміж аддадзенымі людзьмі і рэалістамі.

Першым рэалістам быў агент Эморы Робертс, які здрадзіў Кенедзі, калі яго сэрца яшчэ білася. Робертс бачыў, як апошняя куля трапіла ў галаву Кенедзі, быў перакананы, што рана смяротная, і адразу ж ацаніў вынікі. Як і іншыя агенты, ён насіў у кішэні інструкцыю, якая прадпісвала «ахоўваць» прэзідэнта Злучаных Штатаў. Паколькі мёртвы не можа выконваць функцыі прэзідэнта, разважыў Робертс, віцэ-прэзідэнт ужо стаў новым кіраўніком выканаўчай улады.

Прыняўшы гэтае рашэнне, ён не паспеў спыніць Клінта Хіла, але калі Джэк Рэдзі быў гатовы ўслед за Хілам ускочыць на машыну прэзідэнта, Робертс крыкнуў: «Стой, Джэк!» Рэдзі пахіснуўся, затым адышоў назад. Машына пачала набіраць скорасць, а Робертс сказаў агенту Білу Макінтайру: «Яго забілі. Вы з Бенетам будзеце ахоўваць Джонсана, як толькі мы спынімся».

Машына карэспандэнтаў, якія ўтварылі пул для асвятлення паездкі, ішла за пацьдзесят футаў ад прэзідэнцкага аўтамабіля. Раней карэспандэнты былі нават яшчэ бліжэй. Пасля таго, як картэж мінаваў «Трэд март», машына карэспандэнтаў адстала, і цяпер яна небяспечна пятляла. Шафёру з цяжкасцю ўдавалася весці машыну пасярод шашы. У машыне ў гэты час адбывалася адчайная бойка.

Калі машына знаходзілася яшчэ на Элм-стрыт, карэспандэнт Юнайтэд Прэс Інтэрнэйшнл Мерымен Сміт схапіў трубку радыётэлефона. У бюро ЮПІ ў Даласе пачулі, як ён раўнуў: «Тры выстралы зроблены па картэжу прэзідэнта Кенедзі ў дзелавой частцы Даласа». Гэта першае паведамленне сышло з тэлетайпнай стужкі ЮПІ ў 12,34. Відавочцы яшчэ не паспелі апамятацца, як яно было распаўсюджана па ўсім свеце.

Другім карэспандэнтам, які перадаваў рэпартаж па радыё, быў Джэк Бел з Асошыэйтэд Прэс. Сміт быў старшым, і дзякуючы свайму становішчу ён абагнаў усіх, дасягнуўшы найвялікшага поспеху ў сваёй кар'еры. Чым даўжэй ён мог не дапускаць кантакту Бела з апаратарам АД, тым даўжэй захоўвалася яго перавага, таму ён працягваў гаварыць. Бел, абураны, запатрабаваў трубку. Сміт цягнуў пад той маркай, што даласкі апаратар перачытвае яму тэкст яго паведамлення. Паколькі мы праязджаем пад правадамі, даказваў ён, перадача магла быць скажона. Усе ў машыне чулі голас апаратара ЮПІ.

Перадача была бездакорнай. Бел, ашалелы, крыкнуў і спрабаваў вырваць у яго трубку. Сміт зацiснуў яе між кален і скурчыўся, выкручваючыся ад Бела, які з усіх сіл малаціў яго кулакамі, пападаючы па шафёру і Макілдафу. Нарэшце, Сміт аддаў трубку радыётэлефона Белу, і ў гэты момант сувязь перапынілася.

Каля шпіталя не відаць было ніводнага санітара. Келерман, Сорэлс і Лоўсан разгублена глядзелі адзін на аднаго. «Прыцягніце нам дзве каталкі!» — крыкнуў Рой.

Далаская паліцыя спрабавала папярэдзіць Парклендскі шпіталь, але радыёстанцыя паліцэйскага дыспетчара аказалася няспраўнай. Гэта няўдача, адна з многіх 22 лістапада, не адыграла ніякай ролі ў барацьбе за жыццё Джона Кенедзі. Калі б яго раненні былі менш цяжкія, запознеае папярэджанне магло б паслужыць аб'ектам для ўважлівага расследвання. Але прэзідэнта нельга было выратаваць — ён быў мёртвы ўжо шэсць мінут. Калі б ён не быў прэзідэнтам Злучаных Штатаў, першы ж урач, які яго агледзеў, адразу ж сказаў бы, што ён мёртвы. Дыхання не было. Зрэнкі былі расшыраны і нерухомыя. Яго мозг быў паражоны.

Стан губернатара быў значна менш сур'ёзны, чым здавалася. Ён быў у прытомнасці. Мускулы яго былі напружаны і ён змог сам прыпадняцца і дапамагчы санітарам. Яго паклалі на першую каталку і павезлі ў бальніцу, а Нелі няцвёрдымі крокамі пайшла за ім.

Цяпер наступіла чарга прэзідэнта. Яго паклалі на каталку і хутка пакацілі міма таблічкі з чорнымі літарамі «Не затрымлівацца» праз шырока расчыненыя дзверы. За імі знаходзіўся іншы свет. Дзённае святло туды не пранікала. Пахла хлараформам. Сцены калідора былі абліцаваны змрочнымі карычневымі пліткамі, падлога пакрыта чырванавата-карычневым лінолеумам.

У аперацыйнай № 2 стагнаў Джон Конэлі. Нелі моўчкі стаяла ў дзвярах з распухлым ад слёз тварам і глядзела ў бок. Прэзідэнта ўкацілі ў аперацыйную № 1. Чыясьці рука спыніла Жаклін Кенедзі, і там, на парозе, пачалося яе безнадзейнае чаканне.

Сакрэтная служба павінна была б захаваць усё ў тайне, але ў выніку ка-

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

# ПРАВАМОЦТВЫ




На тэрыторыі грамадскай рады нарадовай Нараўка знаходзіцца 12 вёсак. Прэзідыум ГРН штодзень вымушаны вырашаць іх справы. Таму часта гавораць: прэзідыум ГРН з'яўляецца гаспадаром сваёй тэрыторыі. Ці сапраўды гэта так?

З гэтым пытаннем звяртаемся да старшыні прэзідыума ГРН у Нараўцы тав. Мікалая Раманчука.

— Пачаўшы ад 1962 года, — кажа старшыня, — правамоцтвы нашы пастаянна пашыраюцца і гэта дае аснову для меркавання, што сапраўды кожны прэзідыум грамадскай рады павінен з'яўляцца гаспадаром сваёй тэрыторыі.

— З'яўляцца гаспадаром — значыць самастойна вырашаць шматлікія праблемы мясцовага характару. У чым гэта ў вас праяўляецца?

— Перш за ўсё ў галіне так званай падаткавай палітыкі. Цяпер селянін з падаткаў разлічваецца перад прэзідыумам ГРН. Наш адміністрацыйны апарат налічвае падаткі і вызначае іх вышыню паасобным гаспадарам, кіруючыся, вядома, абавязваючымі нормамі і законамі. Можам, калі ёсць на гэта падставы, самастойна, без чакання на дазвол з павета, прызнаць селяніну ільготы на суму 500 злотых. Аб ільготах у абавязковых пастаўках таксама можам рашаць на месцы.

— Што можа быць асновай для ільготы ў падатках?

— Нейкае сямейнае няшчасце або страта ў гаспадарцы, якая мае непасрэдны ўплыў на даход гаспадара. Ды прычын можа быць амаль столькі, колькі гаспадароў. І тут выяўляецца асноўны сэнс пашырэння нашых правамоцтваў. Мы проста лепш ведаем сваіх людзей. У кожную хвіліну можам скантактавацца з раднымі з вёскі, з якой гаспадар звяртаецца да нас са сваёй справай. Маем магчымасць разгледзець гэтую справу больш дакладна, аб'ектыўна і справядліва.

— На якія галіны грамадскага жыцця хацелі б вы пашырыць свае правамоцтвы?

— Добра было б, каб павысіць да 1000 злотых верхнюю граніцу прызнавання ільгот у падатках. Некаторыя грамадскія рады ў Беластоцкім павеце ўжо карыстаюцца такімі магчымасцямі.

І гэта ўсё?

— Не. самай важнай справай для ўсіх грамадскіх рад **было б устанаўленне работніка, адказнага за арганізацыю сельскагаспадарчай прадукцыі.** Зараз праблемы вясковай прадукцыі раздзяляюцца ў асноўным паміж аграномам і старшынёю. Таму аграном загружаны адміністрацыйнай працай, а старшыня не мае часу на агульнае кіраванне справамі грамады. Неабходна ўстанавіць чалавека, які ведаў бы добра праблемы агра- і заатэхнікі, праблемы механізацыі і арганізацыі вясковай вытворчасці. Значыць, быў бы гэта добра падрыхтаваны чалавек, які супольна са старшынёю і аграномам ствараў бы штодзённы штаб грамады. Тады межы самастойнасці ГРН-аў пашырыліся б яшчэ больш.

Гутарыў **М. Нурэцкі**



**Нараўка. Вуліца Міцкевіча.** **Фота: Міхась Зубрыцкі**

# ЦЯЖКА БЫЦЬ БОГАМ СУЧАСНАСЦІ

Бацькам моладзі, асабліва той, якая знаходзіцца ў горадзе, раю старацца пабываць на канцэрце біг-біту. Не таму, каб захапляцца джазавымі рытмамі, але таму, каб пачуць і пабачыць, чым і як захапляецца пакаленне будаўнікоў нашай будучыні. Тым аднак, хто такой аказіі не мае, а сярод нашых чытачоў такіх большасць — прысвячаю жменю сваіх уражанняў з такога канцэрту.

У Беласток прыехаў быў вядомы і слаўны польскі пясняр Чэслаў Нёман. Нёман прывёз з сабою 4-асабовы інструментальны калектыў «Акварэлі» і камплект электрычных прыбораў для ўзмацнянння голасу. Разгасціўся на абшырнай сцэне тэатру імя Вянгеркі.

Пачаўся канцэрт. У зале пераважна моладзь — тая да дваццаткі, хлопцы з доўгімі валасамі, у світрах і фермерах, і дзяўчаты ў спадніцах сверхміні.

Канцэрт цяжка назваць канцэртам.

Гэта больш за ўсё велізарны ўсеагульны экстаз, цырымонія нейкай экстатычнай, прымітыўнай рэлігіі — дзіўнай і незразумелай. Цэнтральная постаць цырымоніі — Нёман. Шчуплы, прыстойны, з парыкам доўгіх валасоў — паводзіць сябе на сцэне свабодна і бесцырыманіяльна. Са сцэны даносіцца голасны, аглушаючы гул электрычных гітар і барабанаў. Электрычныя гітары, забяспечаныя ўзмацняльнікамі вялікай моцы, не гудуць аднак заголасна.

Сотні маладых энтузіястаў не без поспеху прабуе перакрычаць гэтыя механічныя аглушаючыя прыборы. Зала ўспыхае новым прыплывам шалу, крыку і апладысментаў пры кожным павароце рытму, пры кожным новым жэсце спевака. Ашалеласць узрастае, насільваецца і пераходзіць у адзіны хаатычны гул, у якім зусім не чутна ні Нёмана, ні яго сімпатычных гітарыстаў.

Чэслаў Нёман спявак арыгінальны і амбітны. Ураджэнец беларускай наднёманскай вёскі прабуе спалучыць вострыя джазавы рытм з чуллівасцю і сентыментальнасцю беларускай народнай песні. Нёман хацеў бы заспяваць хаця некалькі, хаця адну са сваіх амбітных, чуллівых, поўных унутранага настрою песень. Просіць, моліць публіку аб гэты, неабходны для песні настрой, аб выслуханне мелодыі да канца, неперарыванне спеваку істэрычнымі выбухамі энтузіязму. Дарэмна. Пры першых рытмах перкусіі на зале гэты ж самы роў інстынктоўнага, нічым не гамаванага, заглушаючага ўсё захаплення. У канцы спявак капітулюе. Вяртаецца да ролі, якую вызначае яму сітуацыя, да ролі бога дваццацігодкаў. Нёман вяртаецца да рытму вострага, прымітыўнага, адпаэтызаванага, першабытнага.

Украдкам азіраюся назад на залу. Відовішча ашаламляючае. Маладыя энтузіясты моцнай музыкі пазрывалі з сябе пінжакі, рубашкі, світры і блузкі, кідаюць іх угору, з балкона пасыпаліся на залу сандалы, капелюшы, шапкі і іншыя часткі гардэробы, нехта ўлез камусьці на галаву, нехта стаў уверх нагамі і ў паветры рытм выбівае, мой сусед справа, ахрыплы ўжо амаль двухгадзінным крыкам, хрычыць быццам парсюк у апошнюю хвіліну канання. А на сцэне ён, Чэслаў Нёман — цар і бог, уладальнік магічнай сілы — рытму аб'ядноўваючай залу, свет і цэлы космас, з позай вялікага мага, з жэстамі чараўніка выконвае свой экстатычны танец.

Пара аднак кончыць. Ва ўрагане крыку і апладысментаў цяжка знайсці Нёману шчыліну, каб заявіць аб заканчэнні канцэрту. Зрабіўшы гэта, не звяртаючы ўвагі на падняты занавес і буру апладысментаў, хапае налітую шклянку і прагна п'е ваду. У выхада са сцэны чакае на яго ўжо натоўп маладых паклонніц, каб атрымаць аўтограф спевака.

Разыходзімся. Ахрыплая публіка размаўляе шыпячым, ледзь зразумелым голасам. Канстатую факты. Быў я сведкам цяжкага зразумення чалавеку, які перакрочыў трыццатку, захаплення і спосабу яго праяўлення. Моладзь гэтая — у вялікім працэнце дзеці спакойных, ціхіх, пабожных польскіх і беларускіх сялян.

А сваёю дарогаю мае рацыю польскі сацыёлаг Зыгмунт Баўман, які цвердзіць, што культура сучаснага свету дзеліцца не на культуру бедных і багатых, дзікіх і цывілізаваных, белых і каляровых, але на культуру моладзі і культуру старэйшых.

**Рыгор Паўлюк**



# ВАРТА РАЗГЛЕДЗЕЦЬ

У кожнай вёсцы апрача солтыса, ці прэзаса сельгасгуртка існуе ўстанова — перадавік аховы раслін. Нягледзячы на тое, што гэта грамадская функцыя, перадавікі аховы раслін могуць адыграць вялікую ролю ў павышэнні плёнаў, перад усім змагаючыся супраць іх шкоднікаў: пустазелля, асатоў і рознага тыпу жучкоў і хвароб.

Асноўнай справай у нас зараз з'яўляецца барацьба з каларадскім жуком, які апаноўвае бульбяныя палі. На колькі ён шкодны, пераконваць нікога не трэба, але не кожны хоча ведаць, што толькі супольныя намаганні могуць даць пажаданыя вынікі ў барацьбе з каларадскім жуком. Несумненна, перадавую ролю адыгрываюць тут перадавікі аховы раслін, якія арганізуюць гэтыя намаганні.

**Іван Маліш** — перадавік з Вялікіх Тыневіч — прапануе адмовіцца ад масавых люстрацый, у якіх бяруць удзел зараз усе гаспадары, а стварыць адну або дзве дружыны, якія будуць люстраваць усе палі данай вёскі. І. Маліш тлумачыць гэта тым, што зараз і так вядома, што «стонка» ёсць, але справа ў кантролі, ці кожны гаспадар адпаведна з ёю змагаецца.

Трэба дадаць, што не кожны мае час у даны момант выслаць каго-небудзь на люстрацыю, многія аб сваім полі не гавораць праўды, ды і пакараць каго трэба не заўсёды ўдасца. Можа сапраўды стварэнне пастаянных дружын для кантролю барацьбы з каларадскім жуком дало б лепшыя вынікі? (ак)

# ДАЖАЛІ ЖЫТА

Здаўна вядзецца ў беларускіх вёсках звычай спраўляць дажынкавыя ўрачыстасці. Як селянін дажынае жыта, жонка ставіць апошні сноп і выцягвае з яго пяць каласоў. Выцягнуўшы каласы, з песняй «Дажалі жыта» ідуць дамоў. Хто першы сустрэне іх на дарозе да хаты і абалье вадою, таму будзе заўсёды добра радзіць жыта. Прыходзяць дамоў і склікаюць сваіх найлепшых суседзяў на дажынкавую бяседу. Цэлы вечар гучыць песня «Дажалі жыта».

Гэты звычай цягнецца ў Слабодцы ад 1895 года, калі Аксеня Матвейчык з Юшкавага Груда прыйшла замуж у Слабодку. Ужо 23 гады як няма Аксені, а яе дажынкавыя ўрачыстасці і памяць аб ёй не загінулі да сённяшняга дня ў сялян Слабодкі.

Чарот

тастрофы выявілася скрытая слабасць — адданасць асобных агентаў чалавеку, якога яны ахоўвалі, а не пасадзе.

Пакуль Кенедзі быў ва ўладзе, субардынацыя была ясная. Цяпер ранейшы парадак змяніўся безнадзейным беспарадкам. Тэарэтычна Рой Келерман быў па-ранейшаму галоўным агентам. Аднак Эмары Робертс ужо не падпарадкоўваўся яму, і калі Рой распарадзіўся, каб усе агенты, якія займалі пазіцыю паўабаронцаў, ахоўвалі ўваходы ў шпіталь, ніхто не патурбаваўся сказаць яму, што Робертс не паслухаўся, паставіўшы іх у іншыя месцы. Ніхто з агентаў нічога не сказаў Рою, ды гэта, бадай, і было б бескарысна, бо тлумачэнні ўсё роўна ні да чаго б не прывялі.

Паколькі прэзідэнты самі выбіраюць сабе галоўных целаахоўнікаў, а Келерман быў зусім незнаёмы Ліндану Джонсану, ён, па сутнасці, ужо быў не пры чым. Асоба яго пераемніка была няясная. Робертс знаходзіўся пры Джонсане, але Янгблад быў пры ім яшчэ раней і быў пратэжэ Джонсана. Такім чынам, у сакрэтнай службе, якая павінна была б быць сімвалам пераемнасці. панаваў раскол. Агенты засталіся без кіраўніцтва і былі таксама разгублены, як усе астатнія з акружэння Кенедзі. Келерман і Хіл заставаліся каля Кенедзі. Янгблад, Робертс і Лем Джонс знаходзіліся каля Джонсана. Большасць кіравалася асабістай адданасцю. Не было ні агульнага плана, ні стройнасці, і немінучым вынікам была анархія.

(Працяг будзе)

# МІНУЛАЕ РАСКРЫВАЕ ТАЙНЫ

Блізкі і Сярэдні Усход. Паўночная Афрыка — бадай, самыя ўдзячныя для археолагаў раёны раскопак, стараннае вывучэнне якіх дапамагае праліць святло на многія няясныя моманты старажытнай гісторыі. Велічныя помнікі Лукаора ў Егіпце, рэшткі рымскіх пабудоў легендарнага Карфагена, ажурныя ланцугі паўразбураных калон і цыркаў Пальміры ў Сібіры, вельмі каштоўныя помнікі шумерскага перыяду ў Іраку ўжо далі навуцы магчымасць падрабязна вывучыць умовы, у якіх развівалася культура даантычнага і антычнага Усходу.

У 30 кіламетрах ад Каіра, як раз там, дзе заканчваюцца зялёныя фарбы жыцця Нільскай даліны і пачынаюцца мёртвыя пяскі бяскрайняй Лівійскай пустыні, узвышаецца з'едзеная часам грамада ступеньчатай піраміды фараона Джосера. Многія вучоныя лічаць, што гэта першае ў гісторыі чалавецтва збудаванне каменнай кладкі. Яго стваральніка, Імхатэпа, нездарма называюць «Леанарда да Вінчы старажытнага Егіпта». Дзяржаўны дзеяч, архітэктар, вучоны, мысліцель — ён з'яўляецца адной з самых легендарных фігур гэтай старажытнай краіны. Аднак найбольшую славу прынесла яму ўменне лячыць хваробы. Імхатэп — адзіны чалавек няцарственнага дома, які стаў праз паўтара тысячагоддзя пасля сваёй смерці богам лячэння ў сваёй краіне. Яго магіла была месцам паломніцтва хворых, якія спадзяваліся на вылячэнне ад розных хвароб і прыносілі ў якасці дару і доктарскага ганарару муміфікаваных свяшчэнных птушак — ібісаў, што асацыіравалася з вобразам Імхатэпа. Рымлянам ён быў вядомы пад імем Эскулапа.

Цяпер месца яго пахавання невядома. Аднак вядомы англійскі егіптолаг прафесар Эмеры пасля трохгадовых раскопак паблізу Сахары пераканаўся, што ён блізкі да раскрыцця тайны. Прафесар Эмеры наткнуўся на цэлы падземны лабірынт галерэй, скрозь застаўлены глінянымі збанамі з муміямі ібісаў. Паколькі лабірынта не відаць канца, прафесар лічыць, што спатрэбіцца яшчэ не менш чатырох сезонаў, перш чым раскопкі канчаткова раскрыюць тайну гэтага, бадай самага цікавага адкрыцця апошніх гадоў.

Французская экспедыцыя, якая праводзіла раскопкі на ўсходняй ускраіне сталіцы Марока горада Рабата, выявіла каля 300 грабніц паблізу руін рымскіх пабудоў, вядомых пад назвай «Сала Калонія». Багатая кераміка і іншыя рэчы бытавога і культурнага характару дазваляюць сцвярджаць, што час пахавання ў гэтых грабніцах — канец першага тысячагоддзя да нашай эры. Пры правядзенні іншых раскопак французскія археолагі сустрэлі рад цікавых знаходак фінікійскага і грэчаскага перыяду, атрымалі матэрыяльныя доказы шырокага развіцця хрысціянства ў краіне ў перадісламскі перыяд.

У Ізраілі, паблізу мястэчка Безамун (верхняя частка даліны ракі Іярдан), рыбаводы, якія займаліся развядзеннем карпаў, выпадкова выявілі на дне адной з сажалак нейкія загадкавыя руіны. Французская археалагічная экспедыцыя, якая прыбыла туды, неўзабаве аб'явіла аб надзвычай важнай знаходцы. Руіны аказаліся рэштkamі дагістарычнай вёскі, датуемай шостым тысячагоддзем да нашай эры.

На месцы старажытнага Кіціёна паблізу кіпрскага горада Ларнака пачаты раскопкі фартыфікацыйных збудаванняў, якія як лічаць спецыялісты, былі пабудаваны ў перыяд, што папярэднічаў III стагоддзю да нашай эры. Гэтыя манументальныя пабудовы нагадваюць размешчаныя праз роўныя інтэрвалы прамавугольныя бастыёны і расцэньваюцца як унікальныя ўзоры будаўнічай культуры мікенскага перыяду.

**Юрый Тысоўскі**



Маўрэтанія. Завулак у гістарычным горадзе Валята на старым шляху караванаў праз Сахару.



Пры раскопках у раёне славутай піраміды Джосера ў ААР выяўлены старажытныя грабніцы і драўляныя саркафагі з муміямі. Іх узрост — каля трох тысяч стагоддзяў. Для кантрасту фатограф зняў каля крышак саркафагаў сучасную дзяўчыну — егіпцянку.

ДЛЯ ГАСПАДЫНЬ

## Як пазбавіцца ад драпін на мэблі

Падрыхтуйце спецыяльную масціку. У чыстай пасудзіне растапіце на слабым агні чатыры вагавыя часткі воску, у расплаўленую масу дабаўце тры часткі шкіпінару і добра размяшайце сумесь. Затым уліце ў яе дзве часткі спірту і зноў старанна размяшайце гатовую масціку. Захоўвайце яе ў шчыльна закрытай бутэльцы або слоіку.

Перш чым пачаць паліроўку і задзелку драпін, трэба старанна выцерці мэблю суконкай, змочанай у газе. Масціка наносіцца на мэблю тампонам і расціраецца мяккай суконкай да бляску.

## Знайшлі мову

Камасінская мова лічылася мёртвай. Нядаўна мовазнаўцы адшукалі ў Саянскіх гарах дзве апошнія камасінкі — Аджыгатаву і Жыб'еву, якія не забылі яшчэ роднай мовы. Праўда, гэтыя жанчыны памятаюць ужо няшмат камасінскіх слоў, але нягледзячы на гэта, вучоныя атрымалі каштоўны матэрыял для вывучэння загінуўшай практычна мовы. Асабліва цікава ведаць камасінскія словы для растлумачэння многіх назваў рэк, азёраў і т.д.

Камасінцы пражывалі ў Саянскіх гарах, з часам яны зрусіфікаваліся. (ся)




САПРАЎДНАЯ ПРЫЧЫНА

Карл паехаў з афіцэрамі недзе ўбок Закапанэ. Таму Віхор і Коля вырашылі начаваць у Сцяпана. Дом Крысі быў надзейны: у тутэйшым гарнізоне ўсе ведалі, што гаспадыня любіць салдата вермахта.

— Вось так, — сказаў Віхор, хруснуўшы пальцамі. — Вось так, браткі.

— Загубяць дзеўку, — сказаў Коля.

— Не зломіцца? — спытаў Сцяпан.

— Не, не зломіцца, — адказаў Віхор.

— Не зломіцца, — паўтарыў Коля.

— Мы цяпер без сувязі, — сказаў Віхор, — кепская справа. Думаю: не давялося б ісці да сваіх — за рацыяй. Праўда, Сівы абяцаў падумаць. Мо' будзем перадаваць ад партызанаў.

— Армія Людова?

— Так. Але аб гэтым яшчэ падумаем. Пакуль вось што... Апошні сказ ад Барадзіна быў такі: «Дваццаць пятага ў Кракаў, у гасцініцу «Французскую», прыбывае эсэсавец фон Штырліц».

— Ну? — спытаў Коля.

— Давай будзем думаць пра твайго эсэсаўца, — сказаў Віхор. — Людзі Сівога даведаліся, што ён вельмі вялікая фігура.

— Такога тыпа, відаць, трэба або гробіць, або красці. Такіх нельга прапускаць міма.

— Відаць, так. Але гэта розныя рэчы — красці яго ці знішчаць. Ты «Французскую» гасцініцу добра ведаеш?

— Ведаю.

— Туды маюць права ўваходу цывільныя?

— Я прайду.

— Не кажы гоп, пакуль не пераскочыш.

— Прайду. Я галю генералаў, яны мяне любяць.

— Паглядзі за ім дзянёк сам. Ён твой, разумееш?

* * *

17 кастрычніка 1939 года супрацоўнік англійскага пасольства ў Осла выняў карэспандэнцыю з паштовай скрынкі, умацаванай на сцяне, ля варот. Разбіраючы карэспандэнцыю, ён адлажыў на бок самаробны канверт. Адрас быў адстуканы па-нямецку. Адраса адпраўшчыка, паштовага штэмпеля, маркі на канверце не было. Супрацоўнік пасольства адкрыў пісьмо. Паколькі нямецкай мовы ён не ведаў, то абмежаваўся аглядам некалькіх старонак, спісаных лічбамі, чарцяжамі і кароткімі аднатацыямі да іх. На ўсялякі выпадак, узяўшы з сабою двух контрразведчыкаў з аховы, супрацоўнік пасольства пайшоў да ваенна-марскога аташэ Вялікабрытаніі контр-адмірала Гектара Бойзы. Той выклікаў свайго перакладчыка. Калі дакумент быў перакладзены, на аэрадром рынуўся «ролс-ройс» пад пасольскім штандартам. А на аэрадроме з запушчанымі маторамі ўжо стаяў спецыяльны самалёт. Вечарам дакумент быў уручаны шэфу англійскай разведкі. На наступны дзень вывучэнне «дакумента Осла» было даручана саветніку Чэрчыля па ваеннай тэхніцы, прафесару Абердзінскага ўніверсітэта ў галіне балістыкі і астраноміі сэру Рэджынальду Віктару Джонсу.

Дакумент быў прызнаны велізарным укладам у антыфашысцкую барацьбу. Дакумент расказваў, што ў Пэнемюндэ, на беразе Балтыйскага мора, арганізаваны цэнтр Трэцяга рэйха па стварэнню «V.Z.b.v.» — «Зброі помсты спецыяльнага прызначэння». «Дакумент Осла» гаварыў, што пад кіраўніцтвам дваццацісямігадовага вучонага Вернера фон Браўна тут, у Пэнемюндэ, праводзяцца звышсакрэтныя працы па стварэнню ракетных снарадаў і балістычных ракет.

«Дакумент Осла» быў настолькі надзвычайны з пункту гледжання пранікнення ў найбольш сакрэтныя справы рэйха, што ў англійскай разведцы думкі падзяліліся: адны лічылі, што гэта тонкая дэзінфармацыя, іншыя патрабавалі неадкладных дзеянняў. Звесткі, атрыманыя з адной крыніцы, не могуць лічыцца звесткамі: гэта можа быць плётка, праяўленне геніяльнага вар'яцтва, дэзінфармацыя, здагадка. Пачынаць адразу ж дзейнасць — добра ў каханні і ў мастацтве. У палітыцы і разведцы гэта можа прынесці толькі шкоду. У разведчыка, як і ў палітыка, ёсць толькі адзін надзейны саюзнік — час.

Праз год пасля атрымання «дакумента Осла» ў Лондан прыйшло данясенне ад групы польскага Супраціўлення на чале з інжынерам Антонім Кацянам: на выспе Узедам, у раёне Пэнемюда, працуе сакрэтная база Вернера фон Браўна, якая займаецца праблемай ракетнай тэхнікі «спецыяльнага прызначэння».

У 1943 годзе дадзеныя з Польшчы, усё больш і больш дакладныя, дабытыя польскімі патрыётамі Кацянам, Ігнашакам, Шрэдарам, Аннай, Сламінскім, Новакам і сотнямі іншых герояў Супраціўлення, былі падмацаваны і ўдакладнены французскай групай «Марка Пола», на чале якой стаялі выдатныя французскія вучоныя Хельбронер, Ашкеназі і Бержэ.

Англійская разведка атрымала звесткі, што фашысты пачнуць абстрэл Вялікабрытаніі сакрэтнымі снарадамі «ФАУ-1» і «ФАУ-2» пачынаючы са снежня 1943 года. Больш таго, праз французскія і польскія крыніцы стала вядома, што ў 1944 годзе гітлераўцы маюць намер запусціць на Англію звыш пяці тысяч ракет са смяротным грузам.

# Д+Д+Д

— Ага, хлопчыкі, маўляў той, муха не варона, куранят не крадзе, але як з разгону ўляціць у смятану з гуркамі, то ўвесь апетыт папсуе...

— Ого, які ж ты раптам гадкі зрабіўся?!.

— Гадкі, не гадкі, а мухі не ягадкі і нікому яны не прыносяць ніякай асалоды.

— Э, што там гаварыць, муха - навітуха, уляціць у зацерку, а ты яе пальцам і аб зямлю!

— Але не кожны чалавек мае такую лёгкую руку і характар.

Зірнула я ў акно, а мужчыны паселі на лаўцы і надта важную вясковую праблему з усіх бакоў языкамі абстукваюць...

— Мухі, як тыя злыдухі, налятаюць на нас і ніякага ратунку перад імі няма?

— Як то няма?! А навуковыя спосабы? А хімічныя сродкі ад чаго? — умяшаўся мой Кастусь.

— Але паспрабуй ты гэтыя хімічныя спосабы знайдзі дзе купіць.

— Так, Кастусь, Міхась праўду кажа. А ты відаць яшчэ лонскі азатокс маеш і жартуеш сабе з нас...

— А гэта зусім не сакрэт, у мяне мухі ловіць яшчэ царская шкляная бабка-мухалапка.

— Бачыце, які ён разумны? А паспрабуй ты цяпер знайдзі дзе шкляную мухалапку?

— Але і ў нашай краме ёсць у продажу ліпкі...

— Прыдзі да мяне, Кастусь, і пабач. Мая Дуня цэлую хату гэтымі ліпкамі абвешала, але якось да гэтых ліпкаў мухі зусім не клеяцца!..

— Бо відна гэтыя лепы былі запланаваны да большага калібру мухаў? І таму пашмараваныя зацяжкім клеем?..

— Ну то навошта гандаль гэтымі фабрычнымі бракамі залеплівае свае недахопы?!

— Гандаль абарот любіць, а людзі маюць дзе клеіць свае залатоўкі!

— А я чытаў у газеце, што мухі разносяць заразкі ўсялякіх хваробаў. І ад 1 да 20 жніўня ў Беластоку будзе вясціся вялікая барацьба з мухамі, якую аб'явіў Д.Д.Д.

— О, бачыце, як то яно ёсць. У Беластоку запланавана барацьба з мухамі... А вясковых людзей хай мухі заядаюць. Вось табе і ДДД!

Раптам выскачыў, як апараны, вельмі сумленны грамадскі радны Язэп Упарты і абураным голасам закрычаў:

— Ты, Антон, не рассявай паміж вясковымі людзьмі фальшывай прапаганды, бо пацягнем да адказнасці! А ўсіх тут прысутных біру на сведкаў. Скажыце, добрыя людзі, ці хто з вас чуў, каб нашы дэмакратычныя мушачкі кагось загрызлі?.. **Цётка Мільвіна**

P.S.

Д+Д+Д — чытай: установа дызінфекцыі і дэратызацыі; разумей: Да нас Далёка-Далёка...



### МАШЫНУ ЗАЙМЕЎ

— Чаму гэта наш Курачкін пачаў на працу спазняцца?

— Дык ён жа машыну купіў, і цяпер яму даводзіцца многа бегаць — гараж яго за пяць кіламетраў ад дому.

### СА СВАЙГО СЕДАЛА

— Чаму ты не знясеш ніколі ніводнага яйка? — кудахтала курыца карове.

— Але ж я даю малако.

— Усё гэта добра, — адказала курыца, — але яйкі таксама трэба несці.

### СВЕЦКАЯ ХРОНІКА

Як сцвярджаюць дасведчаныя, пан Р., які абяцаў сваёй нявесце ажаніцца з ёю, калі выйграе мільён у таталізатары, каб пазбегнуць нечаканасцей, наогул перастаў гуляць.

### МУЗЫКАЛЬНЫ

Дзве жанчыны размаўляюць пра сваіх мужоў.

— Мой муж вельмі музыкальны, — кажа адна.

— А які інструмент ён больш за ўсё любіць?

— Гонг.

— Гонг?

— Так, калі той кліча на абед.

**Генадзь Вежнавец**

## Дырэктар Грак

(байка)

У філармонію, —
дырэктарам дзе Грак, —
Накіраваны быў Шпачок-юнак
з дыпломам спевака.
— Харыст, значыць!
І зноўку да Грака?..
Ну, што ж, працуй,
Але... у нас харыстаў
І без цябе хапае...
Скажам, Сава,
Усім пявунням галава,
Рулады так і разлівае!
Або Крумкач.
Ён крумкае цудоўна,
Такі харыст, такі ліхач, —
Няма наогул яму роўных!
А Чыжык-Пыжык,
А Певень-Кукарэка!..
Нават Салоўка быў,
Ды, праўда, нейкі недарэка...
І хто іх толькі хваліць —
Не птушка,
а замора.
Ох і набраўся з ім я гора,
І добра, што ён сёння ўранні
Уцёк па ўласнаму жаданню.
Шпак запярэчыў...
Ды праз хвіліну
Быў скінуты ніжэй ён на галіну.
Ну, а хаўруснікі Грака
Дзяўбаць узяліся Шпака...
І хоць ён здольны быў і лоўкі —
Падаўся следам за Салоўкам...







Знайдзіце дзесяць адрозненняў паміж гэтымі малюнкамі.



— Дарагі, пастарайся выздаравець, а то ў мяне няма ніводнай чорнай сукні...

### ХВОРЫ ДОМ

Марынка, ідучы з мамай, заўважыла на сцяне дома тэрмометр.

— Мамка, што гэта павешана!

— Тэрмометр.

— А што, і дамы таксама хварэюць?

### ЯК СКАЖА

— Калі, напрыклад, ты спяваеш, — тлумачыць настаўніца, — то ты кажаш «я спяваю». Але як ты скажаш, калі будзе спяваць твой сусед?

— Сціхні!!

### ІНСТРУКТАЖ

Інструктар гаворыць загадчыку птушкафермы:

— Я ў цырку бачыў, як кладуць у скрыначку яйка і адразу ж дастаюць адтуль курыцу. Вось дзе вам вопыт трэба пераймаць!

### МАЛАЙЧЫНА

— Сынок, як адкрывае раток кошачка? Так, малайчына. А як адкрывае раток сабачка? Так, малайчына. А як...

— Хопіць, мама. Я ўжо выйшаў з дзіцячага ўзросту. Ты лепей дай для апетыту сто грамаў.

### ВАКОЛ СЛАВУТАСЦЕЙ

Іспанскі пісьменнік Піо Бароха, седзячы на тэрасе, абдумваў змест будучай кніжкі. Селянін, які праходзіў паўз тэрасу, спытаўся:

— Адпачываеце, дон Піо?

— Не, дружа, працую.

Праз нейкі час, калі ўжо былі напісаны дзве часткі кніжкі, Піо Бароха накіраваўся ў сад. Убачыўшы пісьменніка з капаніцай у руках, селянін спытаў:

— Працуеце, дон Піо?

— Не, сябра, адпачываю.

# Курёзы

### Як стаць мастаком

Вынайдзены яшчэ адзін спосаб стварэння карціны. Ханс Олсен з Гельсінгера (Данія) піша свае карціны наступным спосабам: на расцягнутае палатно, пакрытае свежай фарбай, ён выпускае некалькі куранят і дажджавых чарвякоў. Кураняты ў пагоні за чарвякамі пакідаюць на палатне сляды лапак і ўдараў дзюбай.



### Лазарэт для рыб

У Японіі адкрыты першы ў свеце лазарэт для рыб, чарапах і марскіх млекакормячых. Дзевяць спецыялістаў лечаць там 250—300 асобін розных відаў. У лазарэце ёсць хірургічнае аддзяленне, працуе акуліст.



### Тэлефон — люстра

На нью-йоркскіх вуліцах з'явіліся храміраваныя тэлефоны-аўтаматы. Але гэтыя апараты маюць істотны недахоп: жанчыны выкарыстоўваюць іх бліскучую паверхню як люстра, ствараючы чэргі ля будак.





**Калі разумны лічыць сябе дурнем — гэта яшчэ паўбяды. Бяда, калі дурань лічыць сябе разумным.**